Літаратурная старонка

Трыбуна Беларускага літаратурнага аб'яднання ў Беластоку

№ 25

## OMNIA MEA MECUM PORTO

Я рос у калысцы з палёў і лугоў,
Акружанай плахтаю лесу:
Вясною між кветак, зімой між снягоў,
Пад дахам — блакітам нябесным.

Я першыя крокі ступіў у сяле,
Пазнаў там што сіла, што слабасць.
І штодзень вучыўся, як трэба смялей
З жыцця піць і горыч і радасць.

Пазнаў там я цяжкую працу сялян,
Іх лёс, што капрызы пагоды,
Іх цягу, парывы і шрамы іх ран
І добрыя дні і нягоды.

Іх лёс для мяне будзе заўжды як свой:
Калі ён бяздушны — сумую,
Калі ж ён пагладзіць іх цёплай рукой,
Тады і я радасць пачую

Д. ШАТЫЛОВІЧ

## ПІСЬМО ДА КАХАНАЙ ЖАНЧЫНЫ

Каб я мог паслаць Табе сэрца,
Узяў бы вырваў з грудзей і паслаў.
Яно ўсё па-ранейшаму б'ецца
Тым каханнем, што Ты унясла.

Ты адкрыла б усе мае тайны,
Ты бы ведала кожны сакрэт.
Там надзеі і мары схаваны
І няўдачаў застаўся там след.

У ім жыццёвы мой шлях друкаваны,
У ім напісаны трагі - раман.
Ты ўбачыла б свежыя раны
І сляды зрубцаваўшыхся ран.

А калі б у слязлівым тумане
Разглядаць пачала Ты глыбей,
Там знайшла б Ты любоў і каханне,
Там убачыла б Ты і сябе.

Не магу я паслаць Табе сэрца,
Не магу яго вырваць з грудзей,
Дык няхай жа на гэтай паперцы
Сэрцам пісаны верш мой ідзе.

БАБЫЛЬ

ВІКТАР РУДЧЫК

## МАЛЕНЬКІ ПАРТРЭТ

(АПАВЯДАННЕ)

Гусіны крык разносіўся над выганам за рэчкай. Міхась разам са сваімі сябрамі заняты быў вельмі важнай працай: яны спаборнічалі ў будове маленькіх печак з пяску. Раптам хтосьці з сяброў гукнуў:

— Міхась, тваe гусі ў гародзе!

Міхась пакінуў будаўніцтва і пабег за гусьмі, якія са смакам скубалі густы арэшак. Калі Міхась перабягаў праз дарогу, спыніў яго якісьці дзядзька.

— Хлопчык, — сказаў ён — пачакай!

Міхась спыніўся. Перад ім стаяў незнаёмы дзядзька, апрануты крыху інакш, чым тутэйшыя жыхары. Асабліва зацікавіла Міхася сіняя, круглая шапка з маленькім казырочкам, якую незнаёмы ссунуў на патыліцу, відавочна, ад спякоты. Міхась даўно ўжо марыў, каб хаця бы адзін разок прымерыць такую шапку. У вёсцы падобную меў толькі солтыс і якісьці пан, што часта прыязджаў да вёскі ў чорным мундзіры. Толькі ў таго пана казырок быў шмат большы і кругом акаваны бліскучым жалезам.

— Ну, падыйдзі бліжэй — ласкавым тонам сказаў незнаёмы дзядзька, бачачы, што хлопчык чагосьці засароміўся ці спалохаўся: стаіць і расшыранымі вачыма неяк смешна глядзіць на яго. Але ў той жа момант паветра загудзела злосным жаночым голасам:

— А чые там гусі ў гародзе, каб іх халера!..

— Пачакайце, дзядзька, зараз гусі выганю з гароду! — сказаў Міхась і паімчаўся. Праз хвіліну зноў падыйшоў да незнаёмага і тупым позіркам запытаў яго ў чым рэч. Незнаёмы з зацікаўленнем паглядзеў на хлопчыка. Перад ім стаяў босы малыш гадоў пяць — шэсць, апрануты ў паношаную сарочку з грубага ільнянога палатна, нагавіцы на ім былі або бацькавыя, або старэйшага брата; праз дзіркі ў іх відаць было ногі.

Незнаёмы запытаў дарогу ў суседнюю вёску. Міхась, размахваючы жвава рукамі, стараўся, як мог, найлепш выясніць незнаёмаму тую справу.

— Разумны з цябе хлапчук, — сказаў незнаёмы. — Ты чый будзеш?

— Я Іванаў, — адказаў хлапчук. — Таго, што каля каштана жыве, а не на канцы вёскі, ведаеце?

— Ну, добра, няхай будзе — ласкава ўсміхаючыся, адказаў незнаёмы і пачаў чагосьці шукаць па кішэнях, Міхась пастаяў яшчэ хвілінку, а потым адазваўся:

— Ну, то я ўжо пайду.

— Пачакай яшчэ, штосьці дам табе на памятку, — адазваўся незнаёмы дзядзька і падаў Міхасю невялікі картончык.

— Вазьмі, схавай і нікому не паказвай; толькі памятай, каб не згубіў! — дадаў строгім голасам, пагражаючы пальцам.

Міхась узяў картончык і з захапленнем убіў у яго нічога неразумеючы позірк. Штосьці падобнае дастаў Міхась у мінулым годзе перад пасхай ад мясцовага бацюшкі. «Той аднак быў іншы, — меркаваў Міхась. — У таго на плячах быў вялізны крыж, а над галавой такое яснае, яснае кола. Бацюшка сказаў тады, што гэта найлепшы святы».

Міхась штораз мацней здзіўляецца. З картончыка глядзіць на яго зусім лысы чалавек. Вострая бародка ў яго бодра паднята ўгору, ён стаіць напружаны, як струна, і пахіліўшыся крыху наперад, выцягнутай правай рукой паказвае штосьці далёка, далёка... У яго фігура такая поўная энергіі, што здаецца, вось-вось узляціць ён у паветра і, быццам арол, паімчыцца над зямлёю.

Міхась не вытрымаў і запытаў:

— Дзядзька, скажыце, ці то святы?

— Яшчэ лепш ад святога, — паважна адказаў незнаёмы.

«Лепшы ад святога? — здзівіўся Міхась. — Як жа так можа быць?».

— Ці вы праўду кажаце, дзядзька? — недаверліва запытаў Міхась.

— Ясна, праўду, — рашуча адказаў незнаёмы.

Міхась нейкі час стаяў моўчкі і раздумваў над чымсьці. Урэшце нясмела адазваўся:

— Калі ён яшчэ лепшы ад святога, то скажыце, дзядзенька, як у яго папрасіць, каб майму бацьку даў ён каня і карову?

Незнаёмы здзіўленым позіркам акінуў хлапчука.

— Бо бачыце, дзядзенька, — цягнуў Міхась, як бы хацеў выясніць сваю незвычайную просьбу, — зімой у нас здохла карова, а вясною нейкія паны забралі каня. Бацька гаварыў, што за даўгі. Бо я ўжо столькі маліўся, столькі прасіў Бога і ўсіх святых, а мама нават свечку ў царкве купіла, але нічога не памагло.

— Трэба, сыночак, крыху яшчэ пачакаць, — адказаў незнаёмы дзядзька і пагладзіў Міхася па брудных, зросшыхся ў каўтун канапляных валасах. — Той дзядзька, якога ты бачыш на гэтай картачцы, дасць вам усё: каня і кароўку, і нават рубашку, і новыя нагавіцы...

— А ці ён можа даць здароўе для Варачкі, значыць, маёй сястры, якая ўжо паўгода ляжыць хворая? — пацікавіўся Міхась.

Незнаёмы не паспеў адказаць. Міхасёвы гусі ізноў зайшлі ў агарод і ён пабег за імі. Незнаёмы дзядзька правёў яго вачыма, усміхнуўся і гукнуў у след за Міхасём:

— І памятай, не згубі майго падарунка!

— Не згублю! — адказаў Міхась і зноў босыя яго пяткі хутка замільгалі на сонцы.

*

Многа вады ўплыло ў ручайку за вёскай, шмат кропляў крыві ўнеслі з сабой яе маленькія хвалі.

Міхась жыў у горадзе. Ён быў настаўнікам. Ужо ажаніўся і меў двое дзяцей. Летам Міхась часта з усёй сям'ёю прыязджаў у водпуск да брата, які гаспадараваў на бацькаўшчыне. Так было і тым разам.

Міхась з братам сядзелі на даху бацькоўскай хаты і зрывалі саламяную страху, каб дом пакрыць чарапіцай. На вуліцы, сярод нацярушанай саломы, гаманілі Міхасёвы дзеці, занятыя гульнёю са сваімі вясковымі сябрамі. У нейкі момант Міхась пачуў голас сваёй шасцігадовай дачкі Ніны.

— Папа! — крычала яна, задзіраючы ўгору свой курносы носік. — Штосьці ўпала з даху, я знайшла ў саломе, картачка нейкая!

Міхась глянуў уніз і адказаў:

— Схавай дачанька, потым пакажаш.

Калі ўсе селі абедаць, Ніна падыйшла да бацькі.

— На, папа, — сказала яна і падала бацьку пажоўклы кавалачак паперы.

Міхась узяў, паглядзеў, і раптам усё ў ім усхвалявалася. Перад вачыма, як жывыя, усталі дзіцячыя ўспаміны. Ён убачыў сваіх гусей на выгане, і таго незнаёмага дзядзьку ў круглай сіняй шапцы.

— Паглядзіце! — выклікнуў з захапленнем Міхась — гэта ж тая самая картачка, якую я дзецюком атрымаў ад незнаёмага чалавека!

Усе прысутныя акінулі Міхася пытальным позіркам.

— Ага, ну так, — здагадаўся Міхась, — вы нічога не ведаеце. Тады паслухайце. Была вось такая гісторыя...

І Міхась пачаў расказваць.

— Ну, а потым што ты зрабіў з ім? — пацікавілася Міхасёвая жонка.

— Потым ён дзве нядзелі, — замест Міхася выясніла яго маці ўжо зусім старэнькая жанчына, — насіў гэты партрэцік за пазухай і ноччу маліўся на яго. Нарэшце не вытрымаў і аддаў мне. А я аддала мужыку, значыць вашаму бацьку (вечны ўпакой для яго душы). Бацька сказаў, каб нікому нічога не гаварыць і дзесьці тое схаваў. Але, калі бацьку арыштавала паліцыя за падполле, то пры рэвізіі знайшлі гэта і забралі з сабой. Адкуль цяпер...

— А вось жа, справа ў тым, што паліцыя тады не забрала гэты партрэцік, — перабіў маці Міхась. — Я непрыкметна сцягнуў гэты партрэцік са стала, дзе ён ляжаў разам з іншымі паперамі, і схаваў за пазуху. Ці ж не памятаеш, як яны тады злаваліся, як шукалі?

— Гэта таму?

— Так, — кіўнуў галавою Міхась на пацверджанне.

— Наступнага дня вапхнуў я яго ў страху, дзе ён праляжаў да сённяшняга дня.

Нейкі момант усе маўчалі. Нават дзеці сядзелі ціха. Цішыню перарвала Ніна, дачка Міхася:

— А што — то за дзядзька на тым здымку? — зашчабятала яна.

— От, глупая, не ведае! — адазваўся старэйшы васьмігадовы брат. — Гэта ж Ленін, так, папа?

— Так, дзеці, — задумлівым тонам адказаў Міхась, — гэта сапраўды Ленін. Вельмі добры і разумны чалавек. Вось тады той незнаёмы дзядзька, даючы мне гэты партрэцік, сказаў: пачакай, будзеш мець і новую сарочку і новыя нагавіцы, і каня і карову... Спраўдзіліся яго словы, хаця трэба было доўга чакаць. Бачыце дзеці, вы ходзіце ў чыстай вопратцы, умытыя і сытыя. Я таго не меў. А каб так было, як ёсць зараз, гэты чалавек з таго пажоўклага ад старасці маленькага партрэта не шкадаваў нават свайго жыцця. За тое менавіта трэба яго любіць, як роднага бацьку.

Ізноў усе маўчалі, пакуль Ніна не зашчабятала сваім звонкім галаскам:

— Папа, Міця абліў мне сукенку!

— То не я, то яна сама! — бараніўся той.

«Дзеці аднак заўсёды застаюцца дзецьмі, — падумаў Міхась, — але іх дзяцінства і маё — як сонца і зямля».

# ЖЫЦЦЁ ПАЧЫНАЕЦЦА ПАСЛЯ САРАКОЎКІ

Так ужо бывае, што ў арганізме мужчыны пасля 40 год жыцця даходзіць да пэўнай раўнавагі, вытвараюцца гарманійныя суадносіны паміж фізічнай і псіхічнай дзейнасцю арганізма. Мозг, гэты цудоўны рухавік усіх нашых думак, пачынанняў, учынкаў, «дацірaеццa» да ідэальнага стану. Сабраныя на працягу года веды і вопыт даюць яму тую мудрасць жыцця, якую мы не зможам знайсці ў маладзі. Паглыбленню гэтай мудрасці спрыяе яшчэ і тое, што з цягам часу чалавек выкідае са сваёй псіхікі ўсё тое, што непатрэбна, або менш патрэбна. Гэта, як быццам падсвядомая, арганізацыйная праца мозгу, дзякуючы якой мужчына пасля саракоўкі канцэнтруе сваю ўвагу на цікавячых яго праблемах і ў выніку гэтага выдайнасць яго працы ў многіх выпадках многа разоў большая, чым у маладых людзей. Як добра развіваюцца артыстычная і навуковая творчасць у людзей пасля саракоўкі, як доўга захоўваюць некаторыя пісьменнікі і вучоныя сваю творчую сілу, сведчаць аб гэтым найлепш гістарычныя прыклады. А найцікавейшае тое, колькі вялікіх людзей «будзілася» са звычайнасці менавіта каля 40 год.

Напрыклад, Генрых Ібсен — вялікі скандынаўскі драматург. Сярэднюю школу ён закончыў з вельмі слабымі ацэнкамі і з вялікімі цяжкасцямі трапіў ва ўніверсітэт, дзе таксама вучоба ішла цяжка, і ён нічым асаблівым не вылучаўся. І толькі набліжаючыся да саракоўкі, бліснуў вялікім талентам. Тыцыян да сарака год жыцця быў невядомым мастаком. Юзэф Конрад напісаў сваю першую вартую аповесць, маючы 39 год, а на Тэадора Фантанэ свет звярнуў увагу толькі тады, калі пісьменнік перасякаў саракоўку.

Прыкладам як доўга могуць працаваць старэйшыя мужчыны і якія ствараюць творы, можа сведчыць факт, што Гётэ закончыў другую частку свайго «Фауста», маючы восемдзесят год, а вядомы мастак Іоан Бабтыстэ Карот, маючы 77 год, выказаў гэтыя знамянальныя словы: «Каб Бог дазволіў мне пажыць яшчэ два гады даўжэй, думаю, што намаляваў бы штосьці прыгожае».

Аб выдайнасці працы навукоўцаў сведчыць вынік навукова - статыстычных доследаў, праведзеных у Германіі, дзе сабраны даныя аб навуковых працах 156 людзей навукі, у гэтым ліку 17 астраномаў, 24 хіміка, 19 геолагаў, 17 матэматыкаў, 34 біёлага, 17 лекараў, 20 фізікаў і 10 прадстаўнікоў іншых галін навукі. Аб іх навуковай дзейнасці сведчыць гэтая табліца.

| Узрост | колькасць апублікаваных навуковых артыкулаў і прац |
|---|---|
| 20 — 29 | У сярэднім 9 прац |
| 30 — 39 | „ 20 „ |
| 40 — 60 | „ 24 „ |
| 60 — 70 | „ 18 „ |
| 70 — 80 і больш | „ 13 „ |

Як вынікае з гэтай табліцы, існуе значная перавага ў выдайнасці аўтараў пасля саракоўкі.

Нават, калі гаварыць аб фізічнай працы, то і тут мужчыны пасля 40 год цешацца заслужанай пашанай.

Амерыканскія даследчыкі па загаду ўласнікаў вялікіх прамысловых канцэрнаў правялі аналізу вартасці працы рабочых маладых і старэйшых гадоў. Дайшлі да вываду, што ў старэйшых рабочых:

1) радзей бываюць няшчасныя выпадкі ў час працы,
2) меншая кадравая цякучасць, а гэтым змяншаюцца выдаткі ўласніка на навуку новых працаўнікоў,
3) менш выходзіць прадукцыйных бракаў,
4) яны з'яўляюцца больш адказнымі за працу і праца іх можа абыходзіцца без тэхнічнага нагляду,
5) вышэйшая ступень прафесіянальнай кваліфікацыі і здольнасці,
6) большы вопыт,
7) пачуццё патрыятызму да прадпрыемства.

Здаровы мужчына пасля саракоўкі, фізічна і духоўна акрэплы, свядомы сваёй ролю і вартасцю ў грамадстве, мае перад сабою ак быццам новае жыццё. Новае, таму што інакш глядзіць на жыццё, лепш патрапіць выкарыстоўваць яго для сябе і больш даваць з сябе.

Апрацаваў М. ХМЯЛЕЎСКІ

# УСЯКАЯ ЎСЯЧЫНА

### СУХІ ДОЖДЖ

Трапіць у нас пад дождж — прыемнасць малая, асабліва калі холадна і вы лёгка апрануты. Але на зямлі ёсць і такія мясціны, дзе і пад даждом вы застанецеся зусім сухімі, таму, што і сам дождж тут сухі.

Гэта, здавалася б, зусім неверагодная з'ява назіраецца ва многіх раёнах зямнога шара, у тым ліку і ў сярэднеазіяцкіх пустынях. Справа ў тым, што клімат тут рэзка кантынентальны, а паветра неймаверна сухое. Воблакі — тут з'ява даволі рэдкая, але яшчэ радзей з іх выпадае дождж.

Але нават калі гэта і здарaецца, кроплі дажджу выпарваюцца ў паветры, не дасягнуўшы зямлі.

У такіх выпадках мы бачым, як ідзе дождж, стаім пад ім, але зусім яго не адчуваем: гэта і ёсць сухі дождж.

## Ці ведаеш, што...?

Чорныя парэчкі — вельмі каштоўныя ягады. У іх вітамінаў у пяць разоў больш, чым у суніц, у восем разоў больш, чым лімонаў, апельсінаў, мандарынаў, агрэсту і маліны, у 10—20 разоў больш, чым у яблык, у 20—40 разоў больш, чым у вішань, абрыкосаў і ў 100 разоў больш, чым у вінаграду.



Замест Сэрцайка

## Давайце сябраваць

ДАРАГАЯ РЭДАКЦЫЯ!

Нядаўна ў «Ніве» друкаваўся ліст сябра з Гайнаўкі, які, едучы цягнікам з Бельска, сустрэў прыгожую дзяўчынку. Яна вельмі спадабалася яму. Аднак наш сябра не адважыўся падыйсці і бліжэй пазнаёміцца з гэтай дзяўчынкай. Не ведаў, як гэта зрабіць.

Такіх, як Коля, ёсць шмат сярод нас. Кожны хоча мець сяброў з іншай вёскі, мястэчка, з якімі мог бы весці перапіску. Але як тут пазнаёміцца? І тут, мне здаецца, можа нам памагчы «Ніва». Ці не можна было б у «Ніве» адкрыць куток «Пазнаёмімся» ці «Давайце пасябруем»? Гэта было б вельмі добра. У чым тут справа? — запытае не адзін. А вось у тым, што хлопцы і дзяўчаты, якія захацелі б мець сяброў, прысылалі б у рэдакцыю свае здымкі, пішучы пры гэтым, што іх цікавіць, на якія тэмы хацелі б перапісвацца. У такім выпадку не трэба было б думаць, як пазнаёміцца з дзяўчынай. Напісаў ліст у рэдакцыю і чакай дзесятак лістаў ад дзяўчат і хлопцаў-равеснікаў. Не адзін раз сустрэнешся з дзяўчынай, якая любіць песні, адкрыткі, хоча пагутарыць аб той ці іншай справе. Але не ведае, да каго звярнуцца з просьбай парадзіць, памагчы.

Не ведаю, як думаюць іншыя чытачы, але мне здаецца, што куток «Давайце сябраваць» цешыўся б вялікай папулярнасцю.

МАЦЕЙКА

**АД РЭДАКЦЫІ: Друкуем ліст Мацейкі і хочам пачуць выказванні многіх іншых маладых чытачоў. Калі знойдзецца больш згодных з Мацейкам, тады з нашага боку згода — прысылайце толькі здымкі, будзем змяшчаць, будзем знаёміць.**

# ПАРОДЫ БЫДЛА Ў ПОЛЬШЧЫ



Карова польскай чырвонай пароды — выступае м. інш. у Беластоцкім ваяв. Сярэдняя вага 450 кг. У год дае ў сярэднім 2.700 кг. малака з 3,7 прац. тлушчу.



Карова нізіннай чорна-белай пароды з Познанскага ваяв. Парода гэтая мае ў сябе кроў нізіннага быдла са Швецыі, а таксама з Галандыі. Быдла гэтай пароды вызначаецца добрай малочнасцю і мясам.



Карова нізіннай чырвона белай пароды надта падобна да чорна-белай (Размяшчэнне гл. карту).



Карова сементальскай пароды. Быдла гэтай пароды паходзіць са Швейцарыі, дзе адна такая карова важыць 600 да 750 кг. У нас, у выніку горшага корму, важыць значна менш. Малочнасць ніжэйшая, чым у нізіннага быдла, але працэнт тлушчу большы. Вялікую частку складае ў нас беспародная быдла, якое з'яўляецца мешанінай некалькіх парод. Наогул такое быдла значна горшае.



# Свядомае каханне

— Марыся, ягадка мая, каб праваліўся на гэтым месцы, люблю цябе, як шпак спелую вішню. На двары мароз, а ў мяне ад кахання сэрца тае, кроў капае, дай пацалаваць разок, мая ненаглядная, — шаптаў хлапец, прытуліўшыся да дзяўчыны ля плоту.

Дзяўчына сарамліва адапхнула хлопца.

— Ой, так адразу цалавацца... Вунь Ганна цалавалася, цалавалася і цяжарнай стала. Няўжо ты газет не чытаеш. Цяпер кампанія за свядомае мацярынства ідзе, а ты з цалаваннем сваім лезеш.

— Дык я ж люблю цябе свядома, сонейка ты маё, — не ўступаў хлапец.

— А робіш несвядома. Спачатку ў загс трэба, пасля ў царкву, затым дзіцячае пpыданае і каляску купіць, а тады цалавацца пачнем.

— Значыцца ты не любіш і годзе, — закончыў хлапец і надуў губы, як дзіця, у якога адабралі цацку.

— А няпраўда! Лектар у нас жа быў. Так прыемна гаварыў аб каханні, аб сям'і, аб адказнасці за выхаванне дзяцей і аб розных выпадках, вынікаючых з несвядомасці. А пасля мне Вера адкрылася, як ты ёй у каханні прызнаваўся.

— Я Верцы? Брахуха, як дварняшка, каб ёй вочы павылазілі...

— І павылазяць заўтра, як ёй скажу аб нашым каханні, — паабяцала дзяўчына.

— Э, э... навошта з Веркай гаварыць аб гэтым, нічога не вартая дзяўчына, — прамармытаў хлапец, занепакоены, і разгублены.

Дзяўчына, згараючы з цікавасці, ібы не чуючы гэтых слоў, спытала:

— А ты калі прыдзеш з бацькамі гаварыць? Без благаслаўлення бацькі і маці... страшна падумаць...

— Дык што, я благаслаўленне павінен прасіць на тое, каб пацалаваць цябе, — са злосцю спытаў хлапец, спусціўшы вочы на свае боты.

— Чаго кіпіш? Бачыш, са свядомасцю ў цябе цяжка. Гаворыш: мароз, кроў капае, а снег вакол белы. Каханне любіць праўду, — з крыўдай закончыла дзяўчына.

— І я па-праўдзе люблю. Гатовы з табою на месяц ляцець, абы толькі да заўтра вярнуцца. Заўтра мушу цэнтнер кукурузы вылузаць.

— Навошта ляцець, яшчэ разлядімся. Можа на месяцы ўжо вучоны сядзіць, бачыш, як нам цяжка дамовіцца, — пажартавала. — Маці не раз гаварыла: «Ты, Марысенька, не дайся падыйсці, так, як твой бацька мяне абматаў, век шкадаваць будзеш, а паправіць — не паправіш».

— Эй, свядомая, ставішся нібыта адзіная ты на ўсю вёску. Хочаш са мной хадзіць — прашу, не хочаш — пёс з табою, другую знойдзем.

— Так бы ты і пачынаў, а то: «Марыся, ягадка, каб я праваліўся на гэтым месцы»... І вось, не прападаеш, а другое спяваеш. Свядомае каханне — не лапцяў пляценне.

— Цьфу, прападзі ты. Вечар толькі змарнаваў. Дуй цяпер дахаты. Праводзіць то мне цябе не па дарозе. Верка цалуецца без вывадаў, а тут... свядомая знайшлася.

З гэтымі словамі хлапец пакрочыў уздоўж вуліцы.

Дзяўчына мацней зацягнула хустку і кінула ўслед за ім:

— Пушком дарожка, не адзін знойдзецца галаву марочыць. Верка — дурнічка, цалуецца з такімі, што па ўсёй вёсцы аб гэтым разносяць. Эх, няма ў дзяўчат адзінасці ў свядомым каханні, — закончыла Марыся, адыходзячы ад плоту.

*Дзядзька Лявон*




## Чыя карова

Аднаго разу па балоце хадзіла карова з цялём.

— Чыя гэта карова? — пытаецца маці ў сваёй дачкі. Дачка адказвае:

— Я не ведаю, чыя карова, але ведаю, чыё цяля.

— А чыё? — пытаецца маці.

— Цяля гэтай каровы, — адказала дачка.

ЗІНА КАРПОВІЧ
Страшава

## Няма за што

Дзед даў Ваню і Сашу па шакаладцы.

— Дзякую, — кажа Ваня.

— Няма за што, — адказвае дзед. Саша стаіць і маўчыць.

— Саша, чаму не падзякуеш? — пытаецца Ваня.

— Дзед і так ужо сказаў, што няма за што дзякаваць.

АНДРЭЙ СІДАРУК
Сакі




## Дзірка і патрэбы

Якуб даўжэйшы час не латае даху свайго дома.

— Чаму ты не рамантуеш даху? — пытае яго сусед.

— Но, бачыш сусед, — адказвае Якуб, — калі ідзе дождж, зрабіць гэтага не можна, а калі ўжо добрае надвор'е, тады няма патрэбы.

АЛЯКСАНДР НІКАЛАЮК
Бельск-Падляшскі.

## Спакой

Лекар: — Муж ваш патрабуе спакою, і таму я прыпісаў насонныя парашкі.

Жонка пацыента: — А калі ён павінен іх ужываць?

Лекар: — Гэтыя парашкі вам, і вы іх будзеце ўжываць. Тады муж ваш будзе мець крыху спакою.

ЛЯВОН ЮРЧУК
Койлы

## Гора

— Чаго ты плачаш, Маруся? Што, у цябе кавалера ў салдаты ўзялі?

Маруся, плачучы: — Каб толькі аднаго? Узялі ўсіх трох!

Л. Ю.
Гайнаўскі павет

## Аб супругах

Не ажаніўся б я ніколі з вельмі разумнай жанчынай, — сказаў адзін малады чалавек вучонаму.

— І слушна, — сказаў вучоны, — супругі павінны быць дабраныя.

М. Х.

## Агенцтва гумару і сатыры паведамляе

Калі хто хоча забяспечыцца адпаведным сухенькім дрэвам на распалку, падавайце заяўкі ў павятовае праўленне ЗМВ у Бельску. На складзе ў праўленні ёсць дастаткова сухенькай, як соль, акацы і лістоўніцы (моджэў).

Нейкі час таму назад гуртох ЗМВ у Райску сабраў ад жыхароў вёскі звыш 500 злотых дабраахвотных складчын і зрабіў запатрабаванне ў павятовым праўленні ЗМВ на гэтыя дрэўцы. Моладзь з Райска спадзявалася, што атрымае жывыя дрэўцы, якія грамадскім чынам пасадзіць у вёсцы.

Але вось аднойчы ў вёску прыехала машына з прадстаўніком ПП ЗМВ і сухімі дрэўцамі. Пачалі іх выгружаць пад хатай старшыні гуртка ЗМВ Міколы Чэрвінскага. А дрэўцы трашчаць быццам галлё. Падумаць толькі — 260 дрэвак і ўсе сухія. На распалку дык яны прыгодны, а вось увасркрэснуць ніяк не хочуць.

Дык вось, даражэнькія, хто патрабуе сухенькага дрэва, давайце заяўкі ў праўленне ЗМВ. Тут яго ўдосталь. І не дорага — 2 злотых за штуку.

А ў сваю чаргу цяжка цяпер будзе моладзі Райска сабраць складчыны на нейкую агульную справу.

(вб)



СЕЗОННЫЯ ПАРАДКІ
Маль. Ібіс-Янкоўскі

## Пасаг

**Цесць да зяця:**

— От, атрымліваеш, дарагі зяць, у пасаг дзесяць тысяч злотых, але прысягні, што наша Анечка будзе з табою шчаслівая.

**Зяць:**

— Зараз, зараз, толькі грошы пералічу.

Аляксандр Свірыдзюк
Рыбалы



## АЛЕСЬ

— Татачка, купі мне трубу, — просіць Алесь тату.

— Ты тады будзеш мне трубіць пад вуха, і я не змагу працаваць.

— Але ж, татачка, я тады буду трубіць, калі ты будзеш спаць, — адказвае Алесь.

Лена Калехта
Белявічы



## А танцаваць умее



— Маруся, як жа ты замуж пойдзеш, абеду ж гатаваць не ўмееш?

— Ага...

— Сціраць не ўмееш...

— Ага...

— Танцаваць не ўмееш...

— А, гэта ўжо брэшаце!

Мікалай Шарэйка
Скупава

## ГАРАНТЫЯ

Перад аперацыяй пацыент звяртаецца да лекара, які мае рабіць гэтую аперацыю:

— Што будзе, доктар, калі аперацыя пройдзе няўдачна?

— Будзьце спакойны, — адказвае доктар. — Калі б нават так і здарылася, дык гарантую вам, што вы гэтага не будзеце бачыць.